**№ 96 (1161)**

Серада, 30 мая 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі — кароткачасовыя дажджы.

Вецер паўночна-заходні, 5—10 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — +10...+12, Магілёве, Мінску — +11...+13, Гомелі, Гродне — +12...+14, Брэсце — +13...+15.

У наступныя двое сутак месцамі — кароткачасовыя дажджы. Вецер паўночна-заходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +3...+8; па поўначы на глебе — замаразкі да 0...-2; удзень -- +12...+17.



**НАВІНЫ**

## На саміт СНД у Мінск прыбудзе каля 1000 членаў афіцыйных дэлегацый і суправаджаючых іх асоб

**Каля 1000 чалавек — членаў афіцыйных дэлегацый і суправаджаючых іх асоб — прыбудуць у Мінск, дзе 31 мая — 1 чэрвеня пройдзе саміт кіраўнікоў дзяржаў, урадаў і міністраў замежных спраў СНД.**

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка, дэлегацыі прыбудуць у Нацыянальны аэрапорт "Мінск" дваццаццю самалётамі. Удзельнікі саміта будуць размешчаны ў 5 лепшых гатэлях Мінска, а кіраўнікі дэлегацый — ва ўрадавых рэзідэнцыях "Заслаўе", "Дразды", а таксама размешчаных ў Мінску па вуліцы Фрунзе і Бранявому завулку. Беларускі бок для членаў афіцыйных дэлегацый выдзяляе каля 150 адзінак аўтатранспарту. Суправаджаць афіцыйныя дэлагацыі будзе каля 50 машын ДАІ.

МЗС завершыў акрэдытацыю прадстаўнікоў СМІ. Паводле звестак прэс-сакратара міністэрства, акрэдытавана 228 замежных (з 25 краін свету) і беларускіх журналістаў. Зацікаўленасць да асвятлення згаданых мерапрыемстваў праявілі сусветна вядомыя сродкі масавай інфармацыі BBC (Вялікабрытанія), CNN і "Асашыэйтэд Прэс" (ЗША), "Кіода Цусін" (Японія), "Сіньхуа" (Кітай), "Франс Прэс" (Францыя) і іншыя.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

## Пуцін пра "пэўныя праблемы з Беларуссю"

**Як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, выступаючы 28 мая на нарадзе ў Крамлі, Пуцін адзначыў, што з 1 чэрвеня Расія пераходзіць у гандлі з краінамі СНД на выплату ўскосных падаткаў па краіне прызначэння.**

У гэтай сувязі, сказаў прэзідэнт, "узнікаюць пэўныя праблемы з Беларуссю". "Беларусь — саюзная дзяржава. Выплата ўскосных падаткаў павінна распаўсюджвацца на замежныя краіны, а не на саюзную дзяржаву", — заявіў Пуцін.

Ён прапанаваў членам урада падрыхтаваць рашэнне гэтага пытання з тым, каб "самы блізкі саюзнік" Расіі "не аказаўся ў горшым становішчы, але пры гэтым пэўныя прынцыпы, якія павінны функцыянаваць у гэтай сферы, былі б выкананы".

**Максім ЦІТОЎ.**

## Парламенцкая "тройка" прыбудзе ў Мінск на пачатку ліпеня

**З 1 па 3 ліпеня ў Мінску будзе знаходзіцца еўрапейская парламенцкая "тройка". Пра гэта паведаміў кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік на пасяджэнні Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый (КСАПП). Паводле слоў пасла Віка, міжнародныя парламенцкія структуры па-ранейшаму ўважліва сочаць за сітуацыяй у Беларусі.**

На пасяджэнні Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый былі прыняты дзве заявы — "Аб сітуацыі вакол дзейнасці Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі" і "Аб масавых парушэннях правоў чалавека ў Беларусі". У першым дакуменце гаворыцца: КСАПП лічыць, што КНГ АБСЕ і яе кіраўнік у сваёй дзейнасці строга прытрымліваюцца мандата АБСЕ і Дэкларацыі, прынятай у лістападзе 1999 года на саміце кіраўнікоў дзяржаў у Стамбуле. Паколькі пад гэтай Дэкларацыяй стаяць подпісы кіраўнікоў дзяржаў АБСЕ, уключаючы Аляксандра Лукашэнку, то гэта азначае, што "выканаўчая ўлада ў Беларусі прызнала наяўнасць у краіне канстытуцыйных супярэчнасцей, якія павінны быць ліквідаваныя шляхам дыялога з апазіцыяй пры пасрэдніцтве КНГ АБСЕ".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Бізнесмен Валерый Кругавы атрымаў статус палітычнага бежанца ў Польшчы

**Польшча прадаставіла палітычнае прыстанішча беларускаму прадпрымальніку, дэпутату Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерыю Кругавому.**

Пра гэта інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН паведаміў старшыня Саюза беларускіх палітычных бежанцаў у Польшчы Ян Абадоўскі. Кругавы адшукваўся па запыце беларускіх праваахоўных органаў нібыта за невяртанне крэдытаў, і ў 1998 годзе на суткі быў затрыманы польскай паліцыяй. На думку беларускіх праваабаронцаў, крымінальныя справы беларускіх прадпрымальнікаў Валерыя Кругавога, Андрэя Жукаўца, Аляксандра Пупейкі, што ў гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі пакінулі Беларусь і звярнуліся з просьбай аб прадастаўленні палітычнага прыстанішча ў Рэспубліцы Польшча, маюць палітычную падаплёку.

Саюз беларускіх палітычных бежанцаў у Польшчы спадзяецца, што да канца мая статус палітычнага бежанца будзе прадастаўлены таксама Андрэю Жукаўцу. Той быў затрыманы польскай паліцыяй па запыце беларускага бюро Інтэрпола і Следчага камітэта пры МУС Беларусі і правёў пад вартай 85 сутак. З іх на працягу 34 сутак ён праводзіў галадоўку. Жукавец быў вызвалены 2 мая.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

# ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!




## ЗАЯВЛЕНИЕ

### Консультативного совета оппозиционных политических партий

## "О массовых нарушениях прав человека в Беларуси"

Предпринятая 18 мая 2001 года попытка главы нынешней власти и его окружения организовать очередной "совет с народом" закончилась позорным провалом.

Этот день был отмечен массовыми нарушениями прав человека, которые проявились в беспричинных задержаниях и зверских избиениях десятков мирных граждан в центре белорусской столицы.

Вся "вина" задержанных, избитых и покалеченных граждан была лишь в том, что они хотели мирными средствами выразить свое отношение к происходящему пропагандистскому шоу.

Акты насилия совершали неизвестные лица в штатском. Их действиями руководил лично министр внутренних дел генерал В.Наумов. Это дает все основания утверждать, что побоища в центре Минска были заранее спланированы и организованы МВД, получившим санкцию на произвол от верховной власти.

Необъяснимые исчезновения известных людей, жестокие репрессии в отношении всех инакомыслящих, к исполнению которых все чаще привлекаются анонимные сотрудники спецслужб, - свидетельство нарастания страха режима за свою дальнейшую судьбу и неизбежности наказания за свои деяния.

Запугать народ подобными акциями устрашения не удастся.

Мы требуем возбуждения уголовного дела по факту террора в отношении мирных граждан 18 мая 2001 года в центре Минска и привлечения лиц, причастных к осуществлению бесчинств, к ответственности.

Мы считаем, что персональную ответственность за организацию актов государственного террора несет министр внутренних дел генерал В.Наумов и требуем его немедленного отстранения от занимаемой должности.

Консультативный совет оппозиционных политических партий обращается к мировой общественности с призывом выразить свою солидарность с гражданами Беларуси и осудить антинародную политику правящего режима.

**ДИСКУССИЯ**

# Круто гнет господин Левоневский...

19 мая прочитала в "Народной воле" заметку Т.Кучинской "Забастовка Левоневского провалилась". Маленькая публикация, наполовину состоящая из цитат самого "отца стачкома", попала в десятку. Но я так и знала: тут же последует "опровержение"... со стороны Левоневского. И как тут воздержаться от продолжения разговора?

По словам претендента на пост президента Валерия Станиславовича, *"в забастовке приняло участие более 40 тысяч предпринимателей и примерно 50 тысяч лиц, работающих по найму"*. Всего же в Республике Беларусь зарегистрировано около 75.000 индивидуальных предпринимателей, наемных лиц пока никто толком не посчитал. В 11 часов 18 мая в ходе политической забастовки рынок стадиона "Динамо" был заполнен торгующими практически полностью, не менее чем на 90%, как и в любой другой будний день. Жаль, торговля получилась слабая, за что надо не забыть поблагодарить того же организатора забастовки, анонсировавшего несостоявшееся мероприятие.

В полном составе приступили к работе предприниматели рынка на стадионе "Трактор", Московского, Западного минирынков и других по Минску. В обычном режиме в этот день работали предприниматели в Витебске, Могилеве, Бресте и региональных центрах. Некоторые проблемы местного значения, не имеющие ничего общего с политикой, решали в Гомеле, где в 11 часов приступили к работе. Эти слова готовы подтвердить люди, непосредственно работающие на этих рынках, — В.Шевченко, С.Шлепов, В.Нефедова, С.Пискун, И.Виленский, Т.Юневич, Т.Богачева, В.Симонов и многие другие.

Действительно, на гродненском рынке "Южный" работало только около 60 торговых точек, а на рынке в Ждановичах не выстроился палаточный городок. Это вполне устроило работавших владельцев боксов и хозяев половины мини-магазинов "Мира моды", поскольку обеспечило им выручку за себя и "за того парня". ("Нечего было клювом щелкать".) Других мест массового скопления поддерживающих политические забастовки предпринимателей мы выявить не смогли. Пусть палаточный городок состоит из 15 рядов по 100 мест каждый (беру с запасом), пусть на "Южном" пустовало еще 600 торговых мест. Итого 2100 торговых точек. Если попытаться разместить 90 тысяч "бастующих по Левоневскому" на этих торговых точках, то на каждую из них припадает по 43 политических забастовщика! Круто!

Итак, забастовка с лозунгом "Долой президента" провалилась. Иначе и не могло быть, учитывая политический характер акции. Ничего не имею против политики вообще и вовсе не чураюсь демократических ценностей. Но какое право имеет новоявленный претендент на президентское кресло использовать живых людей как фишку в политических играх? К каким последствиям для многих тысяч торгующих и их семей могут привести политические провокации? Кому и зачем интересно представить пламенными революционерами людей, имеющих о политике самое примитивное представление?

А теперь несколько вопросов для политически активных сограждан.

Почему, когда объединенная оппозиция проводит акции 18 мая ближе к вечеру, Левоневский призывает предпринимателей собраться *"со стороны улицы Ульяновской в 11 часов"*?

Почему предприниматели регулярно получают бюллетень не зарегистрированного Минюстом Белорусского профсоюза предпринимателей (что подпадает как минимум под Административный кодекс), причем тираж этого издания значительно превышает допустимые 299 экземпляров, а власть не предпринимает никаких мер?

Почему власть за аналогичные действия судит других белорусов, но ничего не предпринимает по отношению к Левоневскому? Кстати, Левоневский публично неоднократно признавал, что является главным редактором бюллетеня незарегистрированного профсоюза.

Почему в каждом бюллетене Валерий Станиславович поливает грязью всю объединенную оппозицию в целом и ее кандидатов на президентский пост по отдельности?

Наконец, откуда столько денег (на издательские расходы) у неработающего отца четверых детей?

И напоследок несколько цитат г-на Левоневского из его "Предпринимателя":

*"Практически уже выдвинут "единый кандидат от БНФ и ОГП Семен Николаевич Домаш, которого я лично знаю. Если представить, что Семен Николаевич сменит Александра Григорьевича, то политика правительства по отношению к предпринимателям не изменится. Семен еще больший коммунист, чем А.Г., ему "вставили" коммунистические мозги еще в 1976 году в Высшей партийной школе. ...Но что понимал А.Г. под предпринимательством, выяснилось только потом. А что понимает под этим словом бывший партийный босс Семен, мы можем только догадываться. ... Нельзя допустить, чтобы бывшие "партийные секретари" определяли политику государства".*

У Вас не возникло ощущения профессиональности в изготовлении ярлыков?

*"Поясняю, что на любую акцию нужны деньги... Но мы нашли выход. Никто не имеет права запретить мне взять у вас взаймы, я одалживаю у любого предпринимателя, гражданина, который согласен сделать это добровольно. ...Всем, кто дает мне взаймы, я даю расписку и обязуюсь вернуть ему эти деньги, если он этого захочет".*

*"В случае избрания Валерия Левоневского, данные расписки могут иметь стоимость, в десятки раз превышающую номинальную (скупят нумизматы)".*

*"При наличии расписок на сумму 50 000 и 100 000 рублей вы можете быть приглашены на различные мероприятия (даже на день рождения Валерия Левоневского 15.08.2001)".*

Все, больше не могу цитировать... Разумеется, я имею на руках типографским образом напечатанные экземпляры "Предпринимателя" с этими и многими другими перлами. Надеюсь, они не будут в срочном порядке объявлены фальшивыми.

Уверена, что читатели "Народной воли" сами в состоянии осмыслить информацию и сделать выводы.

**С уважением**
**Екатерина НАУМОВИЧ,**
**действующий предприниматель.**
Минск.

## Я знаю — город будет,

### Я знаю — саду цвесть, когда ТАКИЕ люди...

Если бы классик Маяковский, был жив, он неимоверно воодушевился, узнав о садоводческих пристрастиях белорусского руководителя Александра Лукашенко. Ради любви к зеленому другу А.Г. готов даже остановить движение в некоторых районах любимого города.

Улица Энгельса с самого утра 29 мая напоминала взлетно-посадочную полосу: ни одной машины на дороге, все прилегающие стоянки пусты, а по бокам улицы через каждые пятьдесят метров — машина со спецребятами на борту. В чем дело? Сразу вспомнился знаменитый фильм "Невероятные приключения итальянцев в России", когда терпящий бедствие самолет приземляется на автодороге. Может быть, терпел бедствие самолет Саддама Хуссейна, и улица Энгельса в городе Минске должна была стать спасительной для лучшего друга Беларуси? Только опять вопрос: почему он терпел это бедствие в течение нескольких часов?

Все гораздо проще! Все дело в том, что Александр Григорьевич вознамерился вчера в обеденное время совершить гуманнейший акт — посадить дерево перед лицеем БГУ в честь его открытия. И именно улице, названной именем Ф. Энгельса, суждено было стать той самой взлетно-посадочной...

Как известно, в районе посадки дерева первым лицом государства находятся офисы многочисленных коммерческих фирм, а также наша редакция. В "счастливых" лицах автовладельцев, которых заставили припарковать свои авто в километре от места работы, читалось: "Жаль, что Лукашенко садовник, а не огородник. Сажал бы себе клубничку на дачном огороде и другим неудобств не создавал своей любовью к природе".

Кстати, для прохожих доступ к телу во время выступления "батьки" перед лицеистами был ограничен ста метрами. Попытки же особо любопытных зевак, желающих подышать с Лукашенко одним воздухом, подойти на более близкое расстояние решительно пресекались коротко остриженными охранниками. Допуск в зону "икс" был возможен только при наличии специального приглашения.

Взойдя на пригорок и созерцая процедуру посадки чудо-дерева, я тут же привлек внимание уже другой группы охранников, которые в мгновение ока возникли передо мной, внимательно следя за моими руками.

Может, интересовались, вымыл ли я их перед обедом?

**Александр СИЛИЧ.**

**СКАНДАЛ**

# "Генеральская" провокация

*Иногда жизнь поворачивается к тебе таким местом, что не знаешь, куда девать глаза. "Народная воля" и представить не могла, что попадет в такую историю. Впрочем, обо всем по порядку...*

Недавно на страницах нашей газеты был напечатан материал о том, как журналиста "Народной воли" выдворили со съезда Белорусского союза офицеров. Буквально через несколько дней в редакцию в отдел рекламы позвонил человек, который представился генерал-лейтенантом Ивановым. Назвав руководителю рекламного отдела свое имя и звание, он сказал, что хочет поговорить с автором вышеупомянутой публикации. Я подошла к телефону. Когда человек на другом конце провода снова представился: "С Вами разговаривает генерал-лейтенант Дмитрий Иванов", взяла диктофон. Текст нашего разговора, максимально приближенный к имеющейся в редакции диктофонной записи, был напечатан в одном из последующих номеров "Народной воли" под заголовком "Офицеры не потеют" с соответствующим комментарием. Разговаривала я с "генералом Ивановым" по громкой связи, посему свидетелями экспрессивно-истеричных замечаний моего собеседника были все, кто присутствовал в огромном зале.

Через некоторое время в редакцию "Народной воли" снова позвонил генерал-лейтенант Иванов. Тоже Дмитрий Алексеевич. Правда, на сей раз настоящий. Подлинный председатель Белорусского союза офицеров заявил, что он в редакцию не звонил, это мог сделать от его имени какой-то подлый человек. Мы были, мягко выражаясь, слегка ошарашены: у нас есть диктофонная запись, при желании можно провести голосовую экспертизу. На что генерал справедливо заметил: мол, вы не поняли. В редакцию звонил не я, но я, как и вы, также заинтересован найти человека, который назвался моим именем.

*— Я на все имею свое собственное мнение, а потому уважаю мнение других людей, ибо каждый человек вправе претендовать на свой взгляд, — говорит Дмитрий Алексеевич. — Признаюсь: когда увидел статью, мне стало больно и обидно. Я никогда не допускаю никаких грубостей по отношению к кому бы то ни было, любой разговор всегда веду культурно. Зачитал этот материал на заседании Союза офицеров. Все, конечно, очень возмутились. Хотя некоторые наверняка думали, что именно я давал это интервью. Я это чувствовал...*

*Советом Белорусского союза офицеров было принято решение провести по этому поводу пресс-конференцию и за фальсификацию подать в суд на газету и на корреспондента. Скажу честно, я был против этого решения. Решил обязательно встретиться с автором материала и выяснить, как все было на самом деле. Мне интересно, кто использовал мою фамилию и мою общественную должность для такой грязной провокации.*

Нам тоже весьма любопытно, кому нужно было таким подлым образом "подставить" газету и известного генерала. Тем более что звонок псевдогенерала — по сути, самая натуральная "генеральская" провокация.

Вполне возможно, что звонил какой-то член Союза офицеров, который присутствовал на съезде и был возмущен последующей публикацией, потому как узнал в ней себя, родного, — потного и хамоватого. Хотя Дмитрий Алексеевич говорит, что все члены Союза категорически отрицают данный факт. Да и голос, записанный на пленку, ему лично вроде бы не знаком.

А может, кто-то таким глупейшим образом решил выместить свою личную обиду на генерала?

Или подставить газету, которая, знаем, многим не по душе своими острыми публикациями?

Не исключено и то, что данный звонок — гнусная провокация спецслужб.

Как бы там ни было, но и "Народная воля", и генерал-лейтенант Иванов заинтересованы найти мерзавца, который столь нагло прикрывается чужим именем. Между прочим, именем человека почтенного возраста, у которого немало заслуг перед Отечеством. Посему "Народная воля" обращается к сотрудникам соответствующих спецслужб: помогите найти негодяя, "подставившего" генерал-лейтенанта Иванова и газету.

Одновременно мы приносим извинения Дмитрию Алексеевичу и читателям за досадный случай и полностью дезавуируем вышеназванную публикацию.

**P.S. В ближайших номерах "Народной воли" читайте интервью с генерал-лейтенантом Ивановым, в котором Дмитрий Алексеевич согласился порассуждать не только о генеральских буднях и офицерской чести, но и о многом другом.**

**Марина КОКТЫШ.**

**АКЦЫІ**

## Мазаічная псіхапатыя вылечана ў Жодзіне і Слуцку

Незарэгістраваны маладзёжны рух "ЗУБР" наладзіў акцыю "Народна-псіхалагічныя гулянні" ў Жодзіне 27 мая. У 12 гадзін у гарадскім парку з'явіліся два "мазаічныя псіхапаты", якія адразу пачалі гуляць у хакей на асфальце.

"Санітары" адразу зразумелі ўсю небяспеку такой гульні: людзі, якія стаялі побач і назіралі, таксама маглі заразіцца. Але перш чым затрымаць "спартсменаў", "санітары" мусілі крыху пабегаць "прыдуркамі". Заламаўшы рукі "псіхапатам", яны павялі хворых у народ. Па шляху пацыенты вырываліся з-пад канвою ды падбягалі з клюшкай у руках то да адпачываючых пенсіянерак, то да мужыка, які касіў траву, то да гандляроў, то да простых мінакоў, задаючы розныя пытанні наконт пенсіі, жыцця, калгасаў, выбараў і г.д.

Праз 15 хвілін "санітары" з "псіхапатамі" з'явіліся на харчовым і рэчавым рынках горада. "Хворыя" зноў вырваліся з рук і спрабавалі гуляць у хакей пад дахам рынкавых павільёнаў, запытваючы ў гандляроў, дзе "можна знайсці нармальныя чалавечыя яйкі". На рэчавым рынку "санітары" пачалі разам са сваімі пацыентамі-псіхапатамі збіраць сродкі на лячэнне апошніх. Некаторыя людзі ахвотна клалі грошы ў вусатую скрыню, спадзеючыся, што дурня яшчэ можна вылечыць, аднак большасць гаварыла, што яму ўжо нічога не дапаможа. Праходзіўшы побач міліцэйскі патруль разгубіўся, а потым махнуў рукой на "дурняў", якія хутка бегалі ад прылаўка да прылаўка, маўляў, усё роўна не дагонім.

Назбіраўшы некаторую суму, "мазаічныя псіхапаты" былі накіраваны ў бальніцу без надзеі на паляпшэнне.

Актывісты "ЗУБРа" паставілі дыягназ дурню і ў Слуцку. Адбылося гэта 26 траўня. У акцыі прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек. Сотні сталі сведкамі. "Звар'яцелыя" ў вусатых масках бегалі туды-сюды, чапляючыся да мінакоў з ідыёцкімі пытаннямі і заклікамі ўступаць у калгас. За імі ганяліся "санітары". Яны раздавалі людзям газеты "Наша Свабода" з дыягназам псіхіятра Шчыгельскага, "ЗУБР" і іншыя агітацыйныя і інфармацыйныя матэрыялы. У выніку з дапамогай грамадскасці "мазаічныя псіхапаты" былі адлоўлены і адпраўлены ў адпаведнае месца. Слонімскія ўлады не перашкаджалі "дактарам" выконваць свой абавязак.

28 мая акцыя прайшла і ў Маладзечне. Да гэтага яны адбыліся ў Мінску, Брэсце, Магілёве, Гомелі, Барысаве, Бабруйску і іншых гарадах. Акцыі праходзяць у межах кампаніі "Канчатковы дыягназ", якую маладзёжны рух супраціўлення "ЗУБР" распачаў 21 красавіка ў Мінску.

"Дзень дурня на Беларусі зацягнуўся. Прыйшоў час выбіраць", — гавораць лідэры "ЗУБРа".

**Алесь БЕРКУТ.**

Народная Воля 30 МАЯ 2001 г.

# Нельзя забыть: 30 мая 1999 года.

# ТРАГЕДИЯ НА "НЕМИГЕ"

*Андрэю Кулаку прысвячаецца...*

*Андрэй, сынок! Даруй і мне таксама,*
*Што не змагла цябе аберагчы,*
*Што я вучыла крочыць толькі прама,*
*І ты вярнуўся іншым памагчы.*

*Ты не пабег уперад ратавацца,*
*Ты даў руку, дзяўчатам дапамог,*
*Загінуў ты, бо не умеў хавацца*
*За спіны іншых — так нас вучыць Бог...*

*Ты не сумуй, сынок, на гэтым свеце,*
*Тут горш, як там... цярпі, дзіця, чакай!*
*Мы стрэнемся, як вечны сон расквеціць*
*Святлом нябачаным далёкі небаскрай.*

**03.11.2000 г.**

**Твой апошні класны кіраўнік 10 "В" класса**
**Яніна Іосіфаўна ШЫРОКАВА.**

*Гэты верш напісаны на сцяне на месцы, дзе загінула 53 чалавекі.*

## *Михаил ИНЬКОВ:* "Наших детей откровенно забывают"

***...Им обещали, что сделают все возможное, чтобы найти тех, кто виновен в трагедии на "Немиге". Приложив свою здоровенную пятерню к груди, отец белорусского народа признался, что с этого момента на его сердце 53 незаживающих рубца.***

***Но, увы... 53 рубцов, похоже, и не было. Уже через несколько дней ОН заявил, что виновных нет. А вот сердечная рана родителей и родственников молодых людей, погибших 30 мая 1999 года, не заживет никогда.***

***С Михаилом Михайловичем Иньковым я встретилась на Кальварийском кладбище, где похоронена его дочь Машенька и еще пятеро погибших. Последние два года жизни он, известный скульптор, посвятил увековечению памяти жертв "Немиги".***

**— Михаил Михайлович, как Вы пережили эти два года?**

— Боль утраты не ушла и стала еще острее. Мы все так же живем этим горем.

**— Насколько мне известно, уголовное дело до сих пор не закрыто и все еще идет следствие. Вы были первым, кому дали ознакомиться с материалами дела. Так кто же виновен в случившемся?**

— Долгое время нас пытались убедить, что виновна стихия. Но после изучения материалов дела стало ясно, что это не так. Выяснилось, что, с одной стороны, виноваты милицейские чины Мингорисполкома, которые бездумно расставляли своих подчиненных в определенных местах. Троим будет предъявлено обвинение в халатном отношении. С другой — ответственность лежит на организаторах этого злополучного молодежного праздника. И прежде всего на сигаретной компании "Магна", которая от начала до конца утверждала, вела и курировала весь план мероприятия. В ходе следствия всплыла некая подставная фирма "Антадег", которая была самым тесным образом связана с организаторами мероприятия и выделяла деньги Мингорисполкому, милиции на подарки, закупку пива... Во всех документах указано, что "Антадег" располагается в частном доме на улице Оранского. Однако кроме диспетчера, который даже не знает, кто является руководителем фирмы, застать никого не удалось.

Когда мы обратили внимание следователя на этот факт, нам ответили, что это их не касается.

**— Сколько, по-Вашему, еще продлится следствие?**

— Я думаю, что виновные будут объявлены после президентских выборов. Сейчас лишняя шумиха властям ни к чему.

**— Несколько месяцев назад группа родителей была на приеме у вице-премьера Демчука и в очередной раз просила дать разрешение на создание на месте трагедии мемориала. Что дала эта встреча?**

— Демчук вновь дал распоряжение Мингорисполкому, и спустя некоторое время нам прислали письмо, в котором было написано, что для создания мемориала необходима комплексная регенерация территории. А для этого требуется разработать общую концепцию, из которой можно будет вычленять определенные элементы — мемориальную и археологическую части, культовые постройки. Мы расценили это как первый шаг в нашу сторону. Однако Комитет архитектуры и градостроительства затеял очередную возню. Они подняли наше старое письмо, в котором мы просили для начала установить на месте гибели детей хотя бы мемориальную доску, и предложили нам ограничиться этим. Большинство родителей, конечно же, против. Но немногие, уже отчаявшиеся чего-либо добиться родственники поддались на эту провокацию. В результате создание мемориального комплекса поставлено под угрозу.

**— А на какие средства Вы открываете мемориал на Кальварийском кладбище?**

— Валун в виде сердца нашли сами. Я вылепил крест и доску. Исполком помог их отлить и установить. Аркада, под которой установлены камень и крест, символизирует четыре тянущиеся вверх руки, которые, смыкаясь, пытаются закрыть и уберечь от беды.

Если бы все чиновники вели себя так, как руководство Фрунзенского райисполкома и дирекция Кальварийского кладбища, у нас не было бы никаких проблем. Немига — земля, политая кровью. Там необходима какая-то культовая постройка.

**— Через несколько дней после похорон родственники Оленьки Бибиковой, придя на могилку, нашли ее портрет разорванным в клочья, а рамку одетой на крест. Раньше из перехода пропадали цветы и венки. Слышала, что такое происходит и на кладбище...**

— Пока не будет издан соответствующий закон, вандалы будут смело орудовать на кладбищах. В последних числах апреля на Кальварийском кладбище задержали приличного вида женщину. Смутило то, что она разгуливает со здоровенной сумкой. Открыли, а в ней штук двадцать портретов с могил. Выяснилось — сатанистка.

**— В прошлом году родители создали общественное объединение "Немига-99". Какие функции оно выполняет?**

— Ведем переписку с прокуратурой, боремся за создание мемориала. Сейчас пытаемся добиться бесплатного выделения недорогих лекарств для пострадавших и внеочередного медицинского обслуживания для них.

Несколько погибших ребят — не минчане. И если минские чиновники хоть чем-то помогают, то там — ничем. До сих пор родителям Оленьки Пальвинской (она из города Обаль Витебской области) не дают установить памятник.

**— То есть как не дают?**

— Деньги на памятник выделены уже давно, и Министерству культуры поручено этим заняться. Но воз и ныне там.

Наших детей откровенно забывают. И если мы с этим смиримся, впереди нас ждет еще одна трагедия...

**Татьяна КУЧИНСКАЯ.**

**На фото:** *памятник на могиле Машеньки Иньковой, выполненный ее отцом Михаилом Иньковым.*

## "Моя мама — большая и яркая звездочка"

***В той страшной трагедии, потеряв своего отца, фактически спасшего его от гибели, остался живым шестилетний Алеша Зеленкевич. Посчастливилось спастись и двум мальчишкам четырех и пяти лет, двоюродным братьям Денису Лобану и Владику Шкурдзе, матери которых остались лежать растоптанными на кровавых ступенях перехода.***

Прошло два года после того трагического воскресенья, унесшего жизни 53 человек. Только через полгода после случившегося Владик Шкурдзе начал рассказывать о том, что с ним произошло. Мы смотрим с ним фотографию, сделанную в мае 1998 года в парке, на которой он, его мама Люда, братик Денис и тетя Света — живые и улыбающиеся.

— Это Света, а это мама моя. Моя мама умерла. Ее задавили. Было много народа, и они давились на лестнице. Люди там бежали, как сумасшедшие. Мы не убежали, не получилось. Там было страшно, и я плакал. Мама не плакала, она лежала, потому что уже умерла. Там еще был Денис, но я не знаю, куда он пошел. Меня подняли на ручки, а потом отвели к другой тете, которая цветы продавала. Вынес меня Леша, который жил с нами. Мама и Света остались там. Я это помню. И маму тоже. Она была красивая и добрая. Мы с ней ходили в парк и катались на каруселях.

Сейчас я живу с бабушкой. Она хорошая, и я ее люблю. Скучаю по маме. Я ее вижу на небе. Она туда улетела, и сейчас она звездочка. Она мне светит, и я с ней разговариваю. Я говорю ей: "Здравствуй, мамочка". Она — большая и яркая звездочка. Там еще и Света-звездочка. А недавно там появилась еще одна звездочка — дедушка Саша. Они там вместе.

Мы с бабушкой и Денисом ходили туда, где мама умерла. Там теперь висит ее фотография и фотография Светы тоже. Мама теперь лежит на кладбище. Я туда ходил и носил маме цветы зеленого, красного и белого цвета.

...Трагедия на Немиге для семьи Лобан не закончилась гибелью двоих дочерей. От непосильного бремени навалившихся бед в январе 2000-го года умер их отец Александр Васильевич, и еще одна звездочка появилась рядом со звездочкой-Светой и звездочкой-Людой.

— У нас три дочки, — рассказывает Тамара Иосифовна о погибших дочерях. — Света — старшая, а Люда — младшая. Еще есть Алена — средняя. Когда они были маленькими — тяжело было. Я сама на строительстве работаю штукатуром, знаете, как это тяжело. Домой приходишь — отдохнуть хочется, посидеть. Но они у меня, маленькие, понятливые были, все понимали.

Фамилии у Светы и Люды разные потому, что младшая дочка уже вышла замуж, но у них с мужем как-то не получилось. Вот так дочки — Света с Людой — и жили вместе, вместе работали посменно, детей растили. Одна идет на работу — другая детей смотрит, она уходит — та приходит. И я им помогала, как могла, хотя от меня они ничего не требовали. Сначала мы все жили вместе в большой квартире, но появились маленькие дети — трудно стало: придешь с работы, хочется отдохнуть, а тут надо за ребенком смотреть. Разменяли квартиру, и дочери переехали жить вместе.

Был муж и у Алены, сначала — хороший, а потом пошли друзья. Так они и расстались, он переехал к матери жить. А где-то перед сороковинами по моим дочкам он зарплату получил, пошел купаться со своими друзьями и утонул. А друзья не признались. Просто — нет человека, пропал и все. Начали искать. Тут друзья признались, что видели, как он тонул. Вот тебе и друзья. Вот так и получилось. Пришла сватья к нам на сорок дней, а потом мы к ней на сорок дней ходили...

Туда, на Немигу, они попали, как и все, — пришли посмотреть на праздник. Света и Люда были там с детьми и друзьями. И не успели еще погулять, как дождь начался, град. Они решили спрятаться в метро. Я потом у Дениса, старшего внука, спрашиваю: "Ну как там это все случилось?" Раньше он был в большом стрессе, ничего не мог рассказать, только теперь немного отошел.

Еще больше психологически пострадал младший внук — Владик. Он долго не мог прийти в нормальное состояние, только уже потом рассказал, как там, в переходе, ползал по мертвой маме и просил: "Вставай! Пойдем!", но мама молчала.

Похоронены они на Кальварийском кладбище. Место там хорошее, сухое. На детей я пенсию оформила. Дети очень по мамам скучают. Один ребенок у меня, а второй — у сватьи. Вожу в садик, вечером забираю. Трудно. Работаю я далеко, а еще в магазин надо зайти. Вот так и получается, что прихожу вечером в сад, а мой там последний. Трудно, но справляюсь.

Денис стал очень бояться всего. Что-то у него с нервами стало. Боится в электричках ездить и лифтах. А в троллейбусе один раз ехали и водитель резко затормозил, люди начали наклоняться. А он как закричит: "Люди падают, люди падают!.."

**Татьяна РЕВЯКО.**

## НАВІНЫ

### Прэзентацыя расійска-беларускага суперкамп'ютэра

**У Пераслаўлі-Залескім (Яраслаўская вобласць) у Інстытуце праграмных сістэм (ІПС) Расійскай акадэміі навук завяршылася трохдзённая прэзентацыя першага этапа праграмы "СКІФ" — "Распрацоўка і асваенне ў серыйнай вытворчасці сямейства высокапрадукцыйных вылічальных сістэм з паралельнай архітэктурай (суперкамп'ютэраў) і стварэнне прыкладных праграмна-апаратных комплексаў на іх аснове".**

Як паведамілі мясцовыя СМІ, гэтая расійска-беларуская праграма разлічана на 3 гады (2000—2003) і першы яе этап завяршыўся стварэннем двух узораў суперкамп'ютэраў "СКІФ", адзін з якіх размешчаны ў ІПС РАН.

Як паведаміў выканаўчы дырэктар праграмы ад Расіі, доктар фізіка-матэматычных навук, дырэктар Даследчага цэнтра мультыпрацэсарных сістэм ІПС РАН Сяргей Абрамаў, параўнальны аналіз суперкамп'ютэра з замежнымі аналагамі паказаў ідэнтычнасць большасці характарыстык. Аднак пры супастаўным хуткадзеянні, гэты камп'ютэр аказаўся больш танным. Кошт аднаго модуля суперкамп'ютэра складае прыкладна 5 тысяч долараў ЗША, што робіць яго даступным для самага шырокага кола карыстальнікаў: універсітэтаў і навукова-даследчых інстытутаў, буйных фірмаў і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва. Такое распаўсюджванне дазволіць вырашыць праблему падрыхтоўкі сучасных высокаадукаваных кадраў, якім пад сілу любыя навуковыя і эканамічныя задачы.

**Алег САКАЛОЎ.**

### Цікавасць Германіі да Беларусі

**Выступаючы на адкрыцці семінара "Прававыя асновы мясцовага кіравання і самакіравання ў Рэспубліцы Беларусь", пасол Германіі Хорст Вінкельман прызнаўся, што ён з вялікай цікавасцю сочыць за дзейнасцю ў Беларусі Германскага фонду прававога супрацоўніцтва. Фонд, на яго думку, сапраўды шмат у чым дапамагае паспяховаму станаўленню прававой дзяржавы ў Беларусі.**

Праграма "Трансформ" гэтага фонду, распрацаваная германскім федэральным урадам, па выразу пасла, "заклікана прадэманстраваць цікавасць Германіі да супрацоўніцтва з Беларуссю", да ўсталявання сяброўскіх узаемаадносін і "дапамагчы вашай краіне рухацца да дэмакратычнай і прававой дзяржавы".

**Мікалай ГРАЧУХА.**

### Паток пскоўскіх тавараў у Беларусь

**Паводле звестак упраўлення статыстыкі адміністрацыі Пскоўскай вобласці Расіі, у студзені—красавіку 2001 года вываз тавараў у Беларусь ажыццявілі 28 прадпрыемстваў рэгіёна, паведамілі мясцовыя СМІ. Аб'ём экспарту склаў 57,1 мільёна рублёў, што складае каля 2 мільёнаў долараў ЗША.**

Найбольшую ўдзельную вагу ў агульным аб'ёме паставак у Беларусь складаюць каўчук, рызіна і вырабы з іх (34 працэнты), электрычныя машыны, абсталяванне і іх часткі (30 працэнтаў), гатовыя кармы для жывёл (27 працэнтаў).

**Алег САКАЛОЎ.**

### Паўлу Казлоўскаму адмовілі ў выступленні

**Адзін з магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта краіны, першы міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі пазбаўлены магчымасці выступіць перад дэлегатамі XIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, які 29 мая прайшоў у сталічным Доме літаратара.**

Як зазначаецца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным грамадскай арганізацыяй "Міжнародны фонд рэабілітацыі здароўя былых ваеннаслужачых", 20 мая старшыня СБП Уладзімір Някляеў персанальна запрасіў Казлоўскага ўзяць удзел у працы з'езда. Генерал падрыхтаваў прывітальнае слова беларускім пісьменнікам, аднак пазней высветлілася, што на з'ездзе Казлоўскага не чакаюць, таму што там, па словах сакратара СБП Навума Гальпяровіча, "збіраюцца толькі пісьменнікі".

У сваім адкрытым лісце з'езду СБП Казлоўскі зазначае, што сёння самым важным для ўсіх, тым больш майстроў пяра, з'яўляецца слова праўды. "Сёння па душах многіх суайчыннікаў праходзіць нябачная, аднак адчувальная лінія фронту, якая дзеліць наша грамадства і аслабляе яго духоўныя сілы", — гаворыцца ў лісце. Яго аўтар выказвае спадзяванне, што пісьменнікі змогуць "залячыць гэтую рану", дапамогуць "адкрыць вочы сляпым і вушы глухім", "набыць мужнасць і годнасць запалоханым і прыніжаным".

Павел Казлоўскі заклікае пісьменнікаў абуджаць і выхоўваць нацыянальную самасвядомасць суайчыннікаў, дапамагчы ім дайсці да сапраўднай Беларусі — свабоднай, вартай, незалежнай і шчаслівай у супольнасці цывілізаванага свету.

**Марат ГАРАВЫ.**

### З вадой не жартуюць

**Тры выпадкі гібелі людзей на вадзе зарэгістраваны на мінулым тыдні ў Брэсцкай вобласці. Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе УУС Брэсцкага аблвыканкама, у рацэ Шчара патануў жыхар вёскі Магілёўцы Івацэвіцкага раёна, 1976 года нараджэння; у рацэ Гарынь — рыбак, 1931 года нараджэння, жыхар пасёлка Рэчыца Столінскага раёна; малады мужчына, 1979 года нараджэння, які таксама лавіў рыбу, патануў у меліярацыйным канале непадалёк ад вёскі Наваселле Пінскага раёна.**

Паводле інфармацыі прэсслужбы УУС, летась на Брэстчыне патанулі 125 чалавек, у 1999-м — 218. Найбольш часта гібеллю заканчваюцца спробы нецвярозых людзей асвяжыцца ў вадзе. Толькі за мінулае лета міліцыя прыцягнула да адміністрацыйнай адказнасці каля 800 такіх купальшчыкаў. У Баранавічах, напрыклад, 19 чалавек давялося транспарціраваць у медвыцвярэзнік непасрэдна з пляжа.

У сувязі з наступленнем купальнага сезона супрацоўнікі міліцыі звярнуліся да жыхароў вобласці з просьбай быць асцярожнымі пры купанні і ў мэтах бяспекі адпачываць толькі ў спецыяльна адведзеных для гэтага месцах.

### Амерыканцы напішуць кнігу пра Беларусь

**У Брэсцкім аблвыканкаме адбылася сустрэча кіраўніцтва вобласці, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў з амерыканскай дэлегацыяй, якая 28 мая прыбыла ў Беларусь з візітам.**

У складзе дэлегацыі Майкл Маргуліс — прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі "Хрысціянскі мост", старшыня савета дырэктараў кампаніі SCCI; Алекс Леановіч — член савета дырэктараў аульнанацыянальнай асацыяцыі радыё і тэлебачання ЗША, выканаўчы дырэктар кампаніі SMS; Юрый Мязенка, дырэктар інстытута геапалаітычных даследаванняў і галоўны рэдактар выдавецтва "Хрысціянскага маста".

Сярод мэт цяперашняга візіту дэлегацыі — абмеркаванне праекта выдання кнігі пра Беларусь і яе прэзідэнта, збор матэрыялаў для стварэння відэафільма. Алекс Леановіч паведаміў, што мэтай гэтага візіту з'яўляецца таксама сустрэча з маці загінуўшага на "Курску" падводніка — пінчанкай Соф'яй Дудко.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

### Супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў

**Маладзёжная арганізацыя "Грамадзянскі форум" сабрала 35 тысяч подпісаў супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў вышэйшых, прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.**

Ініцыятарам збору подпісаў выступіў лідэр "Грамадзянскага форуму", дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзімір Навасяд. Ён, у прыватнасці, прапаноўвае выключыць з праекта новай рэдакцыі закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" норму аб прымусовым размеркаванні выпускнікоў. Выключэнне складаюць выпускнікі, якія прайшлі мэтавую падрыхтоўку на аснове дагавораў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

### Падпісаны беларуска-мангольскія пагадненні

**Беларуска-мангольскае камюніке і два міжурадавыя пагадненні — аб садзейнічанні ажыццяўленню і абароне інвестыцый, а таксама аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад выплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць — падпісаны ў Мінску падчас візіту ў Беларусь міністра замежных спраў Манголіі Луўсангійна Эрдэнчулууна.**

З беларускага боку дакументы падпісалі віцэ-прэм'ер урада — міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў і старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Канстанцін Сумар.

Паводле ацэнкі спадара Эрдэнчулууна, на момант усталявання двухбаковых дыпламатычных стасункаў супрацоўніцтва паміж Манголіяй і Беларуссю развівалася даволі актыўна, але за апошнія гады гэтая актыўнасць, у асноўным у гандлёва-эканамічным кірунку, "некалькі спала".

Манголія ў асноўным імпартуе беларускую прадукцыю; мангольскі экспарт у Беларусь невялікі, хаця краіна можа прапанаваць плавіковы шпат, золата, казіны пух, вярблюджую шэрсць, медны канцэнтрат; ёсць і іншыя магчымасці супрацоўніцтва. Аднак, зазначыў спадар Эрдэнчулуун, геаграфічная аддаленасць шмат у чым з'яўляецца перашкодай для развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

